# БЕЛАРУСЫ ЯК НАЦЫЯ? "ЭПІЗОД БЕЛАРУСІЗАЦЫІ" 20-Х ГГ. ХХ СТ. І ПЫТАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭНТЫЧНАСЦІ

АЛЕНА МАРКАВА

***Анатацыя:*** Артыкул прысвячаецца аналізу працэсаў беларусізацыі, якая адбывалася на працягу 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Беларусізацыя ўяўляла сабой адну з найбольш значных спроб фарсіраванага працэсу фармавання беларускай нацыі ў стадыі актыўнай нацыянальнай агітацыі. У дакладзе аналізуюцца прычыны непаспяховасці беларусізацыі як спробы нацыянальнай агітацыі, а таксама прычыны недастатковага атаясамлення тагачаснага беларускага грамадства з нацыянальнай ідэяй ці ідэнтычнасцю на аснове беларускай мовы і культуры, якая прапанавалася і прасоўвалася ў рамках беларусізацыі.

***Ключавыя словы:*** нацыянальная ідэнтычнасць, нацыя, беларусы, беларусізацыя, 20-я гг. ХХ ст., БССР.

## THE BELARUSIANS AS A NATION? "THE BELARUSIZATION EPISODE" OF THE 1920S AND THE ISSUE OF NATIONAL IDENTITY

***Abstract:*** This paper will deal with a diachronic analysis and assessment of the most important attempt at creating a national identity and speeding-up the formation of Belarusianness and its social structure (Belarusization and indigenization [korenizace]), which was undertaken in the 1920s. The paper will analyse the ways of constructing and promoting this Belarusian national project based on the Belarusian language and at the same time it will focus on the reasons behind the failure of the project which echoes in Belarus today.

***Keywords:*** National Identity, Nation, Belarusians, Belarusization, the 1920s, BSSR.

Сённяшняя сітуацыя ў Беларусі не зусім зразумелая замежнаму назіральніку. Яна вызначаецца нацыянальным нігілізмам, амаль поўнай адсутнасцю беларускай мовы ў грамадскім дыскурсе, яе нізкім сацыяльным статусам і агульнай непрэстыжнасцю. Мы сутыкаемся з непрыняццем беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, якая грунтуецца на нацыянальнай культуры, гісторыі, а перш за ўсё на нацыянальнай/дзяржаўнай беларускай мове; працягваюцца працэсы русіфікацыі грамадства.

Даследаванне гістарычнага кантэксту гэтых працэсаў і іх аналіз з'яўляюцца ключавымі для разумення глыбінных каранёў гэтай праблемы.

У гэтай сувязі галоўная ўвага ў дакладзе прысвячаецца дыяхранічнаму аналізу і асэнсаванню працэсаў так званай беларусізацыі, якая адбывалася на працягу 20-х гг. мінулага стагоддзя на тэрыторыі БССР. Беларусізацыя (1924–1929) уяўляла сабой адну з найбольш значных спроб фарсіраванага працэсу фармавання беларускай нацыі ў стадыі актыўнай нацыянальнай агітацыі. Для беларусізацыі былі характэрны ўсе рысы працэсу фармавання нацыі. Яна ўяўляла сабой працэс перахода этнічнай *групы* (Э. Сміт) да мадэрнай *нацыі.* Беларусізацыя прадугледжвала стварэнне платформы нацыянальнай ідэнтычнасці разам з кадыфікацыяй, інтэлектуалізацыяй і прасоўваннем нацыянальнай (беларускай) мовы ва ўсе сферы грамадскага дыскурсу, падтрымкай развіцця нацыянальнай культуры і фармавання поўнай сацыяльнай структуры беларускага грамадства (карэнізацыя). Іншымі словамі, беларусізацыя спалучала поўную моўную, культурную і сацыяльную праграму патрабаванняў нацыянальнага руху, вызначаную М. Грохам.

Беларусізацыя пачынаецца ў той сітуацыі, калі руская мова з'яўляецца па тэрміналогіі Дж. Фішэра "H-language" ці высокай мовай кіруючых эліт. Ролю "L-language" займае беларуская мова падпарадкаванай этнічнай групы. Падчас беларусізацыі рабіліся захады па фактычным набліжэнні беларускай мовы да ўзроўню „H*-language", ці да паўнавартаснай і прэстыжнай альтэрнатывы ў дачыненні да мовы рускай.

На аснове праведзенага даследавання ў дакладзе зроблены вывад аб тым, што беларусізацыя як агітацыя за нацыянальную ідэнтычнасць і водгук на гэтую агітацыю ці яе масавае прыняцце былі непаспяховымі. Пры гэтым мы не адмаўляем дасягненні беларусізацыі ў некаторых галінах (навуковай, адукацыйнай і іншае). Аднак з гістарычнай перспектывы можна канстатаваць, што сапраўды масавае прыняцце прапанаванай дзяржавай нацыянальнай ідэнтычнасці сярод большасці тагачаснага грамадства не адбылося.

Пры падсумаванні прычын гэтай непасяховасці можна вызначыць дзве асноўныя групы:

а) неспрыяльныя ўмовы папярэдняга гістарычнага развіцця, у якіх пачыналася беларусізацыя;

b) неспрыяльныя ўмовы падчас ажыццяўлення беларусізацыі.

а) папярэднія неспрыяльныя ўмовы: нізкі ўзровень сацыяльнай камунікацыі і мабільнасці беларускай этнічнай групы, адсутнасць яе поўнай сацыяльнай структуры, непісьменнасць, адсутнасць адукацыі на роднай мове, немагчымасць дасягнення сацыяльнага поспеху на гэтай мове і шмат іншых.

У момант пачатку беларусізацыі пераважала *этнічная*, нават м*ясцовая*, а не *нацыянальная* ідэнтычнасць. Беларуская мова ўспрымалася ў катэгорыях сацыяльнага паходжання, а не нацыянальнай ідэнтычнасці/тоеснасці ці ідэі. Такім чынам, не існавала пэўнага папярэдняга базіса, на які магла б абапірацца нацыянальная агітацыя, і які мог бы гарантаваць яе наступнае станоўчае і масавае прыняцце, калі мы разглядаем беларусізацыю як працэс прасоўвання нацыянальнай беларускай ідэнтычнасці на аснове нацыянальнай культуры і мовы.

b) умовы на працягу працэсу беларусізацыі: у сітуацыі амаль раптоўнага пераходу ад аграрнай да грамадзянскай супольнасці без адпаведнага працяглага папярэдняга гістарычнага развіцця прасоўванне беларусізацыі ці нацыянальнага праекта нават на дзяржаўным узроўні не вяло да аўтаматычнага і масавага прыняцця нацыянальнай ідэнтычнасці і мовы. Большасцю тагачасных беларусаў (сялянства) моўная і звязаная з ёй сацыяльная няроўнасць яшчэ не ўспрымаліся як сацыяльны гандыкап (перашкода да сацыяльнага росту) ці дыскрымінацыя і таму не прыводзіла да адстойвання права актыўнага карыстання нацыянальнай мовай, што і праявілася падчас беларусізацыі.

Акрамя таго, агульнай непасяховасці нацыянальнай агітацыі не спрыяла татальная русіфікаванасць тагачаснага гарадскога асяроддзя, дзе большасць насельніцтва мела небеларускае этнічнае паходжанне, адкрыты ці пасіўны супраціў і варожае стаўленне некаторых слаёў тагачаснага грамадства да беларусізацыйных ініцыятыў, адносна кароткі перыяд правядзення беларусізацыі і непераадолены нізкі сацыяльны статус беларускай мовы.

Пры падагульненні адносін да беларусізацыі розных слаёў тагачаснага беларускага грамадства можна заўважыць, што паміж станоўчай рэакцыяй беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ці некаторых прадстаўнікоў кіруючых вярхоў і адмоўнымі адносінамі да беларусізацыі з боку большасці партыйцаў, кіраўнікоў, адукаваных спецыялістаў, выкладчыкаў ВНУ, рабочых і работнікаў дзяржапарату

знаходзілася цалкам індыферэнтнае стаўленне беларускага сялянства, якое больш выразна праяўлялася ў галіне народнай адукацыі, а менавіта ў маўклівай згодзе на адкрыццё беларускіх школ. Такім чынам, можна гаварыць аб адносна непаспяховай фазе нацыянальнай агітацыі ці аб водгуку на беларускую нацыянальную агітацыю, а таксама аб недастатковым атаясамленні тагачаснага беларускага грамадства з нацыянальнай ідэяй ці ідэнтычнасцю на аснове беларускай мовы і культуры, якая прапанавалася і прасоўвалася ў рамках беларусізацыі.

Аналіз працэсаў беларусізацыі дае падставы лічыць, што тагачаснае беларускае грамадства і беларускае этнічнае насельніцтва на працягу кароткага перыяду беларусізацыі і пасля яе гвалтоўнага заканчэння мелі і маюць характар грамадзянскай нацыі (у сэнсе тэрміна *"nation"*), самасвядомасць якой закладаецца перадусім на ідэнтычнасці ці атаясамленні з ужо існуючай дзяржавай. Паняцце *"nation"* не ўключае этнічныя рысы ці прыналежнасць да нацыі на аснове мовы, культуры і гісторыі (у адрозненні ад *"нацыі"* ў беларускай, нямецкай і іншых мовах, калі нацыя вызначаецца этнічнай і моўнай прыналежнасцю). Тут лагічна ўзнікае перспектыва фармавання беларускай нацыі ў сэнсе/кантэксце *nation-building* ці *nation-formation*, ці, інакш, фармавання мадэрнай беларускай нацыі, якая адпавядае фармаванню нацыянальнай дзяржавы (БССР). Беларусы атрымліваюць уласную нацыянальную дзяржаву і становяцца нацыяй, а моўнае пытанне прыналежнасці да мовы, культуры і іншых складнікаў самабытнасці ўжо не з'яўляецца вырашальным/галоўным. Пасля рэвалюцыі 1917 г. гэты шлях дзяржаўнай нацыі ўжо быў вырашаны ў выглядзе абвешчанай/існай у розных формах БССР. Менавіта тут змяняецца само ядро паняцця нацыі – зараз мы не лічым галоўнай саму прыналежнасць да моўнай культуры ці само існаванне гэтай культуры (*"nation"* у сэнсе дзяржава). Беларусы, такім чынам, фармуюцца як *nation*, а не *нацыя* ў тэрміналогіі/кантэксце філасофіі Гердэра, гэта значыць, на аснове пераважнага вызначэння прыналежнасці да мовы і культуры, атаясамлення з моўным і культурным складнікам. У гэтым сэнсе беларусізацыя з'яўляецца спробай вытварэння ідэнтычнасці культурнай нацыі на аснове атаясамлення з беларускай/нацыянальнай мовай, беларускай адметнасцю і нацыянальнай спадчынай. Калі мы будзем вызначаць паняцце нацыі, зыходзячы са складнікаў мовы і культуры, дык беларусізацыя ў гэтым кантэксце не была паспяховай. Калі, наадварот, вызначым паняцце нацыі на аснове існай дзяржаўнасці, то ўбачым, што ў тагачаснай БССР фармуецца дзяржаўная нацыя з рускай урадавай мовай. Беларуская ідэнтычнасць у гэтым выпадку з'яўляецца практычным адміністратыўным уключэннем/замацаваннем грамадзяніна ў арбіту

дзеяння і існавання беларускай рэспублікі, беларуская ідэнтычнасць – гэта нешта накшталт урадавай практыкі прымацавання грамадзяніна да ўжо існай дзяржавы ці БССР.

Беларуская мова падчас беларусізацыі не стала сімвалам нацыянальнай ідэнтычнасці ці дзяржаўнасці і магла быць у гэтай ролі заменена на рускую мову, якая нязменна займала месца прэстыжнай „H-language“ (высокай мовы). Кароткі перыяд ажыццяўлення беларусізацыі і яе заканчэнне ў 1929 г. не спрыялі ўсталяванню тых глыбокіх і доўгатэрміновых змен у стаўленні да беларускай мовы з боку большасці насельніцтва, якія потым маглі б самастойна – без адміністрацыйных загадаў і кантролю “зверху” – працягвацца, павольна набіраючы сілу, іншымі словамі, не паспелі выйсці на такі ўзровень, каб саміх сябе рэпрадуктаваць.

Нестабільнасць “беларусізацыйнага эксперымента” і яго хуткае заканчэнне маюць значна шырэйшы рэзананс, які выходзіць за рамкі 1920-х гг. Сённяшняму беларускаму нацыянальнаму нігілізму і русіфікацыі, якая “вымывае” у сённяшнім грамадстве нацыянальную ідэнтычнасць на аснове *беларускасці* ці, іншымі словамі, ідэнтычнасць на культурнай і моўнай аснове, не перашкаджае пэўны папярэдні беларускі культурны “капітал” ці тая “назапашаная” нацыянальная ідэнтычнасць, якія б стваралі альтэрнатыву ідэнтычнасці і “H-language” савецкага часу на аснове рускай мовы, хаця менавіта такія спробы праводзіліся падчас беларусізацыі. Адсутнасць у сучасным грамадстве тоеснасці з “беларусізацыйным капіталам” і сама нязначнасць ці нават элітарнасць гэтага капіталу і яго паасобных складнікаў прыводзіць да таго, што сёння ён абмежаваны вузкім культурным і навуковым дыскурсам, які могуць не падзяляць шырокія слаі грамадства.

# АСПЕКТЫ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ 1861–1914 ГГ. У ПРАЦАХ ПОЛЬСКІХ ГІСТОРЫКАЎ НАЦЫЯНАЛ-ДЭМАКРАТАЎ У НЕЗАЛЕЖНАЙ ПОЛЬШЧЫ МІЖВАЕННАГА ПЕРЫЯДУ

ІГАР МЕЛЬНІКАЎ

***Анатацыя:*** Адным з галоўных кірункаў у гістарыяграфіі адноўленай у 1918 г. Польскай дзяржавы быў нацыянал-дэмакратычны, які ў значнай ступені фарміраваўся пад уплывам ідэй Рамана Дмоўскага. Прадстаўнікі гэтай плыні значную ўвагу надавалі вывучэнню гісторыі фарміравання нацыянальнай самасвядомасці народаў, якія пражывалі на тэрыторыі міжваеннай Польшчы. Яшчэ адным важным момантам у працах гісторыкаў-эндэкаў быў аналіз так званай "арганічнай працы" шляхты Беларусі ва ўмовах Расійскай імперыі другой паловы XIX – пачатку XX стст.

***Ключавыя словы:*** нацыянальная самасвядомасць, нацыянал-дэмакраты, Раман Дмоўскі, Паўночна-Заходні край, Расійская імперыя.

## THE ASPECTS OF SOCIAL AND ECONOMIC HISTORY OF BELARUS IN 1861–1914 IN THE WORKS OF POLISH NATIONAL DEMOCRAT HISTORIANS OF THE SECOND POLISH REPUBLIC

***Abstract:*** One of the main trends in the historiography of the Second Polish Republic (1918–1939) was a national-democratic one, which to a great extent was formed under the influence of Roman Dmowski's ideas. Representatives of that movement paid considerable attention to the history of formation of the national identity of the peoples living in the interwar Poland. Another important moment in the works of the national democrat historians was the analysis of the so-called "organic work" of Belarusian nobility with the Russian authorities in the late 19th – early 20th centuries.

***Keywords:*** National Self-Identity, National Democrats, Roman Dmowski, Northwestern Kraj (Region), Russian Impire.

Гістарычная навука міжваеннай Польшчы развівалася хуткімі тэмпамі. Даследчык польскай гістарыяграфіі Анджэй Грабскі (Grabski, 2000: 125) адзначаў, што падзеі 1918 г. аказалі значны ўплыў на польскую гістарычную навуку. Безумоўна, цэнтрамі развіцця польскай гістарычнай навукі былі навуковыя ўстановы, але трэба падкрэсліць, што тагачасная польская гістарыяграфія знаходзілася пад значным уплывам дзяржаўнай ідэалогіі. У аднаўленай польскай дзяржаве існавала некалькі гістарыяграфічных накірункаў, якія фарміраваліся пад уплывам ідэй палітычных рухаў і партый. Адным з галоўных быў нацыянал-дэмакратычны, які ў значнай ступені фарміраваўся пад уплывам ідэй Рамана Дмоўскага. У сваіх даследаваннях гісторыкі-эндэкі на першы план ставілі паняцце "нацыя", якую ў большасці гістарычных і публіцыстычных прац ідэнтыфікавалі з вышэйшымі пластамі грамадства – шляхтай. Прадстаўнікі нацыянал-дэмакратычнага кірунку тагачаснай польскай гістарыяграфіі не прызнавалі права на самавызначэнне нацыянальных меншасцей, якія пражывалі на тэрыторыі міжваеннай Польшчы.

Адным з галоўных прадстаўнікоў гэтай плыні польскай гістарыяграфіі быў Ёахім Барташэвіч. Гісторык з Аполя Марэк Белакур падкрэсліваў, што постаць гэтага публіцыста была незаслужана адштурхнута на другі план асобай Р. Дмоўскага. Віной гэтаму была нават не ўнутрыпартыйная кан'юнктура, а змова маўчання ў пасляваенны час, калі ідэі палітыкаў, гісторыкаў і публіцыстаў II Рэчы Паспалітай падвяргалі моцнай крытыцы (Białokur, 2005: 80). Трэба падкрэсліць, што Ё. Барташэвіч, разглядаючы гісторыю Беларусі, засяроджваў увагу перш за ўсё на праблемах нацыянальна-культурнага і сацыяльнага характару. Аспекты эканамічнай гісторыі засталіся па-за яго ўвагай.

Беларусаў польскі публіцыст не лічыў народам і, як і шматлікія прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычнай партыі, называў этнічнай групай (Białokur, 2005: 125). Ё. Барташэвіч (Bartoszewicz, 1923: 1) адзначаў, што ў перыяд пасля паўстання 1863–1864 гг. беларусы называлі абшар, на якім жылі, Польшчай і трактавалі расіян як чужынцаў. Зразумела, што такога роду высновы насілі відавочную ідэалагічную афарбоўку. У наяўнасці падмена паняцця "I Рэч Паспалітая" паняццем "Польшча", што тлумачылася неабходнасцю абгрунтавання польскіх правоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У брашуры "Палітычнае значэнне ўсходніх крэсаў для Польшчы" (Bartoszewicz, 1924: 2) і кнізе "Праблемы польскай палітыкі" (Bartoszewicz, 1929: 5) гэты палітычны дзеяч і публіцыст падкрэсліваў, што беларусы не маюць нацыянальнай свядомасці і таму не ствараюць якой-небудзь праблемы для польскіх улад.

Іншым прадстаўніком згаданага кірунку стаў Уладзіслаў Студніцкі. У сваіх даследаваннях ён шмат увагі надаў аналізу сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі на рубяжы XIX–XX стст. У 1919 г. убачыла свет яго брашура "Паўночна-ўсходнія землі былой Рэчы Паспалітай Польскай", у якой аўтар (Studnicki, 1919: 1) указваў, што роля Беларусі ў эканоміцы Расійскай імперыі была нязначнай. З апошнім, аднак, цяжка пагадзіцца. Беларусь у канцы XIX ст. была адным з галоўных транзітных цэнтраў паміж Заходняй Еўропай і Расіяй. Прыбытак з карыстання беларускімі чыгуначнымі шляхамі быў штогод на 30 млн руб. большы, чым эксплуатацыйныя выдаткі. Значны прыбытак казна атрымлівала і ад вырабу спірту і спіртавых прадуктаў (Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900–1917 гг, 1963: 210). Па меркаванні Ул. Студніцкага (Studnicki, 1919: 6), палітыка русіфікацыі, рэпрэсіі супраць каталіцкага касцёла адмоўна ўплывалі на працэс фарміравання нацыянальнай свядомасці народаў, якія жылі ў Беларусі.

Аўтар правёў глыбокі аналіз стану сельскай гаспадаркі ў Паўночна-Заходнім краі і спрабаваў абгрунтаваць неабходнасць правядзення мадэрнізацыі гэтай галіны эканомікі. Гаворачы аб прамысловасці, польскі даследчык зазначаў, што апошняя мела экспартны характар (Studnicki, 1919: 8). У сваім артыкуле "Каланізацыя і развіццё нашага Усходу" Ул. Студніцкі (Studnicki, 1921: 30) працягваў аналізаваць гаспадарчае становішча беларускіх зямель на пачатку XX ст. Ён падкрэсліваў, што адной з галоўных праблем сельскай гаспадаркі Беларусі было тое, што значная колькасць зямлі заставалася нявыкарыстанай. Варта, аднак, зазначыць, што ў Беларусі існаваў значны працэнт непрыгоднай для земляробства зямлі. Напрыклад, у Магілёўскай губ., па дадзеных за 1897 г., пад балотамі знаходзілася 15 % усёй зямельнай плошчы – кожная шостая дзесяціна зямлі. Да пачатку XX ст. колькасць забалочанай зямлі павялічылася. У Мінскай губ. у 1905 г. такая зямля складала 14,5 %, а да 1912 г. яе плошча павялічылася да 27,8 %. У 1913 г. у Віцебскай губ. было забалочана 10 % усёй плошчы, што ў лічбах складала 669 355 дзесяцін. Яшчэ большая колькасць забалочаных зямель была і на Палессі (Липинский, 1978: 83).

У падобным ключы была напісана і праца віленскага публіцыста Уладзіслава Бараньскага, у якой аўтар на падставе гістарычных дадзеных імкнуўся абгрунтаваць эканамічную значнасць Паўночна-Усходніх зямель II Рэчы Паспалітай. Аналізуючы ўсе сферы эканамічнага жыцця беларускіх ваяводстваў міжваеннай Польшчы, аўтар падкрэсліваў, што гістарычна важнае значэнне мела транзітнае знаходжанне Беларусі, якім у свой час добра карысталася Расійская імперыя. Публіцыст падкрэсліваў неабходнасць развіцця чыгуначнай інфраструктуры

рэгіёну. Ул. Бараньскі (Barański, 1934: 10) адзначаў, што эканоміка беларускіх губерняў Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі мела аграрны характар.

Важным момантам у працах гісторыкаў-эндэкаў быў аналіз так званай "арганічнай працы" шляхты Беларусі. У 1928 г. убачыла свет манаграфія Антонія Жабко-Патаповіча "Стагоддзе дзейнасці польскіх землеўласнікаў 1814–1914", лейтматывам якой было вызначэнне ролі супрацоўніцтва шляхты і адміністрацыі ў справе паляпшэння эканамічнага стану Паўночна-Заходняга краю. Даследчык прадставіў аналіз раней выдадзеных прац, прысвечаных жыццю і дзейнасці шляхты на тэрыторыі Беларусі. А. Жабко-Патаповіч канцэнтраваў увагу на так званай "польскай зямельнай уласнасці". У сваёй манаграфіі (Żabko-Potapowicz, 1929: 27) ён апісваў працэс стварэння сельскагаспадарчых таварыстваў, якія былі цэнтрамі эканамічнага жыцця беларускіх губерняў.

Польскія публіцысткі Людвіка Жыцка і Міхаліна Ленска таксама займаліся вывучэннем гісторыі жыцця і дзейнасці землеўладальнікаў Беларусі. У манаграфіі "Дзейнасць палякаў на Міншчыне ў перыяд пасля паўстання", якая была падрыхтавана пад навуковым кіраўніцтвам вядомага польскага гісторыка С. Касцялкоўскага, даследчыцы шмат увагі надалі асвятленню гісторыі дзейнасці Мінскага сельскагаспадарчага таварыства, сельскагаспадарчага сіндыката і Мінскага таварыства ўзаемнага страхавання. Л. Жыцка і М. Ленска (Życka i Działalność, 1939: 39) прадставілі біяграфічныя звесткі і факты з жыцця галоўных кіраўнікоў гэтых арганізацый. Так, былі апісаны жыццярысы Эдварда Вайніловіча, Караля Чапскага і інш. На падставе значнай колькасці фактаў і статыстычных матэрыялаў даследчыцы пераканаўча даказвалі, што менавіта дваранства Беларусі і Літвы было той сілай, якая ажыццяўляла капіталістычныя пераўтварэнні ў гаспадарцы заходніх губерняў Расійскай імперыі.

Такім чынам, польскія гісторыкі, прыхільнікі нацыянал-дэмакратычнай партыі, канцэнтравалі сваю ўвагу перш за ўсё на аналізе працэсу фарміравання нацыянальнай свядомасці беларусаў. Тлумачылася гэта ізноў жа тым, што існавала патрэба як мага хутчэйшай асіміляцыі насельніцтва далучанай да Польшчы Заходняй Беларусі. Важным у працах прадстаўнікоў гэтага кірунку развіцця польскай гістарыяграфіі было тое, што яны звярталі значную ўвагу на вывучэнне гісторыі супрацоўніцтва шляхты і землеўладальнікаў з царскімі ўладамі. У працах гісторыкаў-эндэкаў абгрунтоўвалася ідэя аб тым, што гэтае супрацоўніцтва дазволіла падняць сельскую гаспадарку Беларусі на даволі высокі ўзровень і зрабіць яе больш сучаснай.

***Бібліяграфія***

1. Липинский, Леонид (1978). *Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии.* Минск: БГУ.

2. Матусевич, М. Г. и др. (1963). *Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900–1917 гг.* Минск: АН БССР.

3. Barański, W. (1934). Akcja gospodarcza na ziemiach Północno-Wschodnich: odczyt wygłoszony w dn. 20.II.1934 w T-wie Rozwoju Ziem Wsch. w Warszawie. Wilno: Izba Przemyslowo-Handlowa w Wilnie: Pogon.

4. Bartoszewicz, Joachim (1923). "Polityka polska na Kresach Wschodnich", *Gaz. Warszawska.* 13 stycz.

5. Bartoszewicz, Joachim (1924). *Znaczenie polityczne kresów wschodnich dla Polski.* Warszawa: Wydaw. Pol. T-wa Opieki nad Kresami.

6. Bartoszewicz, Joachim (1929). *Zagadnienie polskiej polityki.* Warszawa: Patria.

7. Białokur, Marek (2005). "Białorusini w myśli politycznej Joachima Bartoszewicza", Białorus. Zeszyty Hist. № 23.

8. Białokur, Marek (2005). *Myśl społeczno-polityczna Joachima Bartoszewicza.* Toruń: Wydaw. A. Marszałek.

9. Grabski, Andrzej Feliks (2000). *Zarys historii histriografii polskiej.* Poznan: Wydaw. Poznańskie.

10. Studnicki, Władysław (1919). *Północno-wschodnie zieme dawnej Rzeczypospolitej Polskiej: ref. Biura Kongresowego.* Warszawa: [s. n.].

11. Studnicki, Władysław (1921). *Kolonizacja i rozwój gospodarczy naszego wschodu.* Warszawa: [s. n.].

12. Żabko-Potapowicz, A. (1929). *Stulecie działalności ziemiaństwa polskiego, 1814–1914.* Warszawa: Rada Nacz. Org. Ziemiańskich.

13. Życka, L. *(1939). Działalność popowstaniowa polakow na ziemi Mińskiej: materiały i wspomnienia.* Warszawa: Koło Przyjaciół Uchodźców z Mińszczyzny.

# ЗАКАНАДАЎЧА-ПРАВАВАЯ БАЗА ЭМІГРАЦЫІ З ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАГА РЭГІЁНА Ў АРГЕНЦІНУ Ў 20–30-Я ГГ. ХХ СТ.

ВОЛЬГА МЯРЧУК

***Анатацыя:*** У артыкуле прадстаўлена інфармацыя аб перасяленчым руху заходнебеларускага насельніцтва ў Аргенціну ў міжваенны перыяд. Прадметам даследавання з'яўляюцца эміграцыйныя працэсы 1921–1939 гг. з Заходняй Беларусі ў Аргенціну. У даследаванні прааналізавана заканадаўча-прававая база эміграцыі і статыстыка эміграцыйных рухаў. Зроблена выснова аб тым, што ў пошуках добрага заробку і лепшай долі вялікая колькасць заходніх беларусаў выехала ў Аргенціну – краіну, якая з'яўлялася самай папулярнай сярод эміграцыйных плыняў 20–30-х гг. ХХ ст.

***Ключавыя словы:*** эміграцыйнае заканадаўства, эміграцыя, міжваенны перыяд, Заходняя Беларусь, Аргенціна.

## LEGAL BASIS FOR EMIGRATION FROM THE WESTERN BELARUS REGION TO ARGENTINA IN THE 1920S–1930S

***Abstract:*** The article provides the information about the resettlement movement of the population of Western Belarus into Argentina during the interwar period. The subject of the research is the emigration process of 1921–1939 from Western Belarus. The author analyses the documentary-legal base of emigration and statistics of emigration processes. The conclusion is made that in search of good salary and a better life, a considerable quantity of the western Belarusians left for Argentina that was the most popular country among emigration directions of the 1920s–1930s.

***Keywords:*** Emigration Law, Emigration, Interwar Period, Western Belarus, Argentina.

Эміграцыйныя працэсы 20–30-х гг. XX ст. адыгралі вялікую ролю ў аграрна-эканамічнай і дэмаграфічнай гісторыі Заходняй Беларусі. На працягу 1921–1939 гг. з заходнебеларускага рэгіёну выехала вялікая колькасць беззямельных і малазямельных сялян, якія імкнуліся палепшыць сваё матэрыяльнае становішча шляхам працаўладкавання за мяжой. Адной з галоўных краін эміграцыі заходнебеларускага насельніцтва ў 1921–1939 гг. з'яўлялася Аргенціна.

У міграцыйнай заканадаўча-прававой базе Аргенціны галоўным з'яўляўся закон "Аб іміграцыі" № 817 ад 6 (19) кастрычніка 1876 г., які рэгуляваў працэсы і механізмы міграцыі (Włodek, 1923: 334; Бацян і інш., 2006: 110). Закон дзейнічаў на працягу ўсяго міжваеннага перыяду і быў адным з самых ліберальных сярод краін Амерыкі. Згодна з іміграцыйным законам, у Буэнас-Айрэсе была адкрыта Генеральная іміграцыйная дырэкцыя, а ў Еўропе – шматлікія канторы па вярбоўцы мясцовых жыхароў у гэтую лацінаамерыканскую краіну (Włodek, 1923: 336).

У першай палове 20-х гг. XX ст. іміграцыйная палітыка Аргенціны насіла ліберальны характар, які праяўляўся ў магчымасці аплаты праезду імігрантаў не толькі з уласных сродкаў і дзяржаўнага бюджэту Аргенціны, але і праз пасрэдніцтва прыватных мараходных прадстаўніцтваў, якія дзейнічалі ў сферы эміграцыі і каланізацыі (Pilch, 1984: 139).

У 1927 г. прэзідэнт Аргенціны Марсела дэ Альвэара ў сваім выступленні адзначаў, што каланізацыя новых тэрыторый Аргенціны з'яўляецца важнай з'явай у гісторыі краю. Па-першае, пачалі стварацца асадніцкія эміграцыйныя суполкі. Па-другое, права на грамадзянства атрымаў кожны 18-гадовы перасяленец, які бесперапынна пражыў у краіне на працягу 2-х гадоў (Głos, 1927: 4; Archiwum, л. 28).

З 1930-х гг. у выніку разгортвання сусветнага эканамічнага крызісу і павышэння аргенцінскіх візавай аплаты ў 10 разоў (з 1 студзеня 1931 г. замест 30 аргенцінскіх песа за візу патрабавалі 300, прычым у аргенцінскіх консульствах канверсія ажыццяўлялася па самым вялікім курсе) назіраўся спад эміграцыйных плыняў з Заходняй Беларусі (Janowska: 186; AAN, К. 9796, л. 21).

У выніку станоўчай і актыўнай іміграцыйнай палітыкі аргенцінскіх улад на працягу ўсяго міжваеннага часу ў Аргенціне існавала шмат аргенцінскіх і міжнародных каланізацыйных таварыстваў і зямельных кампаній, якія ажыццяўлялі разнастайныя зямельныя аперацыі. У выніку спрыяльнай эміграцыйнай палітыкі Польшчы, зацікаўленасці аргенцінскіх улад у асваенні новых тэрыторый і каардынаванай дзейнасці каланізацыйных і мараходных таварыстваў эміграцыя заходнебеларускага насельніцтва ў Аргенціну атрымала небывалы раз-

мах. Пачынаючы з 1921 г., колькасць эмігрантаў, якія пакідалі родныя мясціны ў пошуках лепшай долі і выязджалі на працу ў сельскагаспадарчыя правінцыі Аргенціны, складала 2257 чалавек, у 1922 г. – 3311 чалавек, у 1923 г. – 4977 чалавек, у 1924 г. – 5590 чалавек, у 1925 г. – 8820 чалавек. Агульная колькасць польскіх эмігрантаў за 1921–1925 гг. складала 24955 чалавек (Szawleski, 1927: 113).

Зыходзячы са звестак польскай эміграцыйнай статыстыкі, эміграцыя з Польшчы ў Аргенціну атрымала самае вялікае распаўсюджанне на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёну (пасля тэрыторыі Заходняй Украіны): за 1927–1937 гг. у правінцыі Аргенціны выехала каля 28 тыс. чалавек: з Палескага – 11 тыс., Віленскага – 6,9 тыс., Беластоцкага – 6,7 тыс., Навагрудскага – 3,4 тыс. чалавек. У той жа час з польскіх ваяводстваў выехала толькі каля 25 тыс. чалавек, а з заходнеўкраінскіх – каля 52 тыс (Mały rocznik,1938: 57).

Аднак пры выяўленні статыстычных паказчыкаў эміграцыі ў Аргенціну ўзнікаюць цяжкасці, звязаныя з працэсам падліку колькасці мігрантаў у польскіх і аргенцінскіх дзяржаўных аддзелах статыстыкі. Па-першае, аргенцінскае і польскае заканадаўства прызнавала нацыянальную прыналежнасць мігрантаў па той краіне, дзе яны пражывалі, і фіксавалі толькі веравызнанне, па-другое, амаль да 30-х гадоў XX ст. у Аргенціне праваслаўных імігрантаў з Польшчы прыпісвалі да рускіх, а католікаў – да палякаў. Так, калі па дадзеных польскай афіцыйнай статыстыкі агульная колькасць заходнебеларускіх эмігрантаў, якія выехалі ў правінцыі Аргенціны на працягу 1927–1938-х гг., складала каля 29 тыс. чалавек, то па дадзеных беларускіх даследчыкаў на пачатку XX ст. у аргенцінскіх правінцыях пасялілася амаль 70 тыс. беларусаў, а ў 30-х гадах іх налічвалася ўжо каля 200 тыс. чалавек (Бацян і інш., 2006: 110–115). Статыстычныя паказчыкі аргенцінскіх улад былі яшчэ больш заніжаныя: паводле дадзеных Генеральнай іміграцыйнай дырэкцыі ў Буэнас-Айрэсе лічба эмігрантаў за 1921–1924 гг. складала толькі 4433 чалавекі (Dobosiewicz i Rómmel, 1983: 51).

Нелегальная агітацыя і прапаганда эміграцыі прадстаўнікамі мараходных кампаній, якія атрымлівалі 5 долараў з кожнага завербаванага эмігранта, з'явілася прычынай распаўсюджання ў Польшчы гэтак званай "аргенцінскай гарачкі" (Kołodzej, 1982: 96). Збяднелае і беззямельнае насельніцтва Заходняй Беларусі распрадавала сваю маёмасць і на апошнія сродкі накіроўвалася ў аргенцінскія правінцыі, дзе працэс працаўладкавання не заўжды насіў лёгкі характар (AAN, K. 9616, л. 15). З боку аргенцінскага ўраду для імігрантаў, пазбаўленых капіталу, аказвалася дапамога ў якасці прадстаўлення месца ў іміграцыйнай гасцініцы Буэнас-Айрэса (на 5 дзён) падчас прыбыцця і працаўладкавання: у

1929 г. з іміграцыйнай гасцініцы на працу па збору жніва выехала 19 % італьянцаў, 22 % іспанцаў і 55 % імігрантаў з Польшчы ад агульнай колькасці эмігрантаў. Акрамя таго, эмігранты атрымлівалі бясплатны праезд па чыгунцы да месца працы.

Асноўнымі катэгорыямі грамадзян, якія маглі эмігрыраваць у Аргенціну, былі: аргенцінцы па нацыянальнасці; асобы, якія мелі "affidavit argentyński" (дазвол аргенцінскіх іміграцыйных улад на ўезд у краіну) і запрашэнне, атрыманае праз польскае консульства ў Буэнас-Айрэсе, лісты да аргенцінскай амбасады, якія выдала Яўрэйскае таварыства дапамогі эмігрантам "Soprotimis"; сельскагаспадарчыя сем'і; яўрэйскія работніцы (Дзяржаўны архіў, л. 4). Не маглі эміграваць у аргенцінскія правінцыі хворыя, асобы з судовым пакараннем за апошнія 5 гадоў, жабракі, асобы старэйшыя за 60 гадоў (выключэнне складалі эмігранты, якія выязджалі ў кампаніі сваякоў, што бралі на сабе ўсе выдаткі), замужнія жанчыны без мужа і з дзецьмі да 18 гадоў, дзеці да 18 гадоў (Wskazówki, 1929: 37–38).

Транспарціроўка эмігрантаў у Аргенціну ажыццяўлялася караблямі другога і трэцяга класаў сусветных мараходных кампаній: "Chargeurs Reunis", "Cosulich Line", "Royal Dutch Lloyd", "Navigatione Generale Italiana", "Nelson Line", "Royal Mail Line", "Societe Generale de Transports Maritimes a Vapeur". Месцам адплыву караблёў былі парты Гдыня, Гданьск, Амстэрдам, Генуя, Трыест, Ліверпуль, Марсель. Кошт дарожнага білета трэцяга класа складаў 950–1030 злотых. Праезд дзяцей ад 5 да 10 гадоў аплачваўся напалову, ад 5 да 1 года – ¼ ад агульнага кошту дарожнага білету, а дзеці да 1 года ехалі бясплатна (Wskazówki, 1929: 42–44). Падарожжа морам працягвалася каля чатырох тыдняў.

Заходнебеларуская эміграцыя ў Аргенціну насіла пераважна аграрны характар. Акрамя сельскай гаспадаркі, перасяленцы былі заняты таксама ў прамысловасці і абслугоўваючай сферы. Паводле статыстычных звестак, у 1927–1937 гг. асноўную колькасць эмігрантаў складалі сельскагаспадарчыя рабочыя – каля 59,4 тыс. чал., у той час як прамысловыя работнікі налічвалі каля 10,4 тыс., а работнікі сферы абслугоўвання – каля 1,2 тыс. (Mały rocznik, 1938: 56). Такая сітуацыя на працоўным рынку Аргенціны была характэрнай на працягу ўсяго міжваеннага перыяду: перавага надавалася сельскагаспадарчаму кірунку працы, якая заключалася ў апрацоўцы зямлі, зборы ўраджаю, працах на плантацыях матэ, цукровага трыснягу і іншае. (Paradowska, 1984: 27).

Такім чынам, масавая эміграцыя беларусаў у Аргенціну на працягу 1920–1930-х гг. прывяла да таго, што напярэдадні Другой сусветнай вайны былі сфарміраваны каланіяльныя асяродкі заходнебеларускіх

эмігрантаў у Буэнас-Айрэсе, Кардобе, Місьёнесе, Тукумане, Чака і іншых рэгіёнах гэтай краіны.

***Бібліяграфія***


1. Бацян, М. і інш. (2006). *Беларуская дыяспара: нарысы гісторыі і сучаснага стану.* Мінск.

2. Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (ДАБВ). Ф. 2082. Воп. 1. Спр. 9. Цыркуляры і ўказанні эміграцыйнага сіндыкату аб эміграцыі ў Аргенціну і Бразілію.

3. Archiwum Akt Nowych (AAN). Zespół MSZ. K. 9792.

4. AAN. Zespół MSZ. K. 9616.

5. AAN. Zespół MSZ. K. 9796.

6. Głos (1927). 5.03.1927.

7. Dobosiewicz, Z. i Rómmel, W., red. (1983). *Polonia w Ameryce Łacińskiej.* Lublin.

8. Janowska, H. *Emigracja zarobkowa w Polsce. 1918–1939.* Warszawa.

9. Kołodzej, E. (1982). *Wzchodźstwo zarobkowe z Polski. 1918–1939.* Warszawa.

10. Paradowska, M. (1984). *Podróżnicy i emigranci.* Warszawa.

11. Pilch, A., red. (1984). *Emigracja z ziem polskich w czasach nowożytnych i najnowszych (XVIII–XX).* Warszawa.

12. *Mały rocznik statystyczny* (1938). Warszawa.

13. Szawleski, M. (1927). *Kwestja emigracji w Polsce.* Warszawa.

14. Włodek, J. (1923). *Argentyna i emigracja.* Warszawa.

15. Wskazówki dla wychodźtwa do Argentyny (Mała biblioteka emigranta polskiego № 2) (1929). Warszawa.

# ГАБРЭЙСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ БЕЛАРУСІ Ў ПРАВАВОЙ ПРАСТОРЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (КАНЕЦ XVIII – 1 ПАЛ. XIX СТСТ.)

ВОЛЬГА САБАЛЕЎСКАЯ

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаюцца матывы “яўрэйскага заканадаўства” Расійскай імперыі ў канцы XVIII – першай палове XIX стст. Адстойваецца думка пра дамінаванне матыву перавыхавання яўрэйскай супольнасці з мэтай забеспячэння яе лаяльнасці ўраду праз асіміляцыю альбо акультурацыю яўрэйскага насельніцтва.

***Ключавыя словы:*** заканадаўства, яўрэі, асіміляцыя, акультурацыя, юрыдычны статус.

# THE JEWISH COMMUNITY OF BELARUS IN THE LEGAL SPACE OF THE RUSSIAN EMPIRE (LATE 18TH - EARLY 19TH CENTURY)

***Abstract:*** The motives of the “Jewish legislation” of the Russian Empire in the late 18th - first half of the 19th century are considered in the article. The author advocates the idea of the dominance of the motive of reformation of the Jewish community to ensure its loyalty to the Government through assimilation or acculturation of the Jewish population.

***Keywords:*** Legal System, Jews, Assimilation, Acculturation, Legal Status.

Прававая тэматыка стаяла ў цэнтры руска-яўрэйскага дыскурсу ў 2 пал. XIX – пач. XX ст. Па прыкладзе Заходняй Еўропы, расійская грамадскасць выступала за вырашэнне яўрэйскага пытання на юрыдычным полі. Вывучэнне "яўрэйскага заканадаўства" Расіі пачалося ў 2 пал. XIX ст. (І. Аршанскі, В. Ляванда, М. Градоўскі, М. Галіцын, М. Мыш, Ю. Гесэн). Беларускую гістарыяграфію таго часу папоўніў артыкул С. Кацэнбогена (1923: 189–200). Абвастрэнне міжэтнічных адносін у 1880-я гг. нарадзіла хвалю публікацый яўрэйскіх публіцыстаў, у якіх пераважае апраўдальны тон. Аўтары імкнуліся даказаць несправядлівасць і немэтазгоднасць захавання прававых абмежаванняў для яўрэяў, эканамічную карысць іх дзейнасці, растлумачыць рэлігійнае і паўсядзённае жыццё яўрэяў. Права Расійскай імперыі вызначала падставы жыцця габрэяў на яе тэрыторыі, абмежаванні ўплывалі на сацыякультурнае і гаспадарчае жыццё яўрэяў, таму яно заслугоўвае вывучэння.

З праблемай вызначэння статуса яўрэяў самаўладдзе сутыкнулася ў апошняй чвэрці XVIII ст. Падданых-габрэяў Расія набыла разам з анексаванымі ў Рэчы Паспалітай землямі, у гаспадарцы якіх яўрэі займалі месца гандлёва-вытворчага саслоўя. Істотнасць іх унёску ў гаспадарку не дазволіла Кацярыне ІІ адмовіць амаль 100 тысячам яўрэяў у праве на жыхарства, як гэта рабілася ў 1727, 1742, 1762 гг.

Габрэйская супольнасць у Расійскай імперыі разглядалася як асобная прававая група са спецыфічным юрыдычным статусам. Прычыны яе вылучэння ў асобную групу:

- адсутнасць вопыту кіравання габрэямі;
- юрыдычная традыцыя Рэчы Паспалітай, "габрэйскае заканадаўства" якой было ўзята за ўзор у Расіі;
- адсутнасць імкнення да асіміляцыі ў габрэйскім асяроддзі;
- культурна-рэлігійная адметнасць габрэйскай супольнасці.

Ідэя ўніверсалізму адсутнічала ў расійскім заканадаўстве. Грамадства імперыі канца XVIII ст. было складанай сістэмай саслоўяў і станаў з розным статусам (дваранства, сялянства, духавенства, іншаземцы, іншаверцы). Гэтыя абставіны абумовілі ўнікненне асобнай плыні ў праве Расіі – "габрэйскіх законаў". Габрэі Расійскай імперыі былі трапна названы праз Іллю Аршанскага "паўграмадзянамі", падданымі з абмежаванымі грамадзянскімі правамі, рэалізацыя якіх была мажліва на вызначанай тэрыторыі – у мяжы габрэйскай аселасці (Оршанский, 1877: 3).

Мяжа аселасці – асаблівы феномен расійскага заканадаўства. Не было іншай этнаканфесійнай групы, прымацаванай да канкрэтнай тэрыторыі, але практыка абмежавання права перамяшчэння па краіне пэўных катэгорый падданых была распаўсюджана. Асноўная маса насельніцтва – сяляне –прымацаваны да зямлі; дваране, якія служылі ў

войску, не мелі права яго пакідаць з уласнай волі; неаднаразова перасялялася казацтва. У першыя 20 год жыцця габрэяў у Расіі яны маглі свабодна перамяшчацца па краіне, заканадаўства капіравала нормы Рэчы Паспалітай (кагал як орган самакіравання, забеспячэння правапарадку і фіску; падушны падатак; права запісвацца ў купецтва альбо заставацца мяшчанамі; свабода веравызнання і гандлёва-прадпрымальніцкай дзейнасці; вызваленне ад асабістага выканання ваеннага абавязку).

Фарміраванне мяжы аселасці пачалося ў 1791 г., яна мяняла свой выгляд, але заўсёды поўнасцю пакрывала тэрыторыю Беларусі. З цягам часу своеасаблівая "мяжа аселасці" сфарміравалася і ўнутры "мяжы яўрэйскай аселасці". На пачатку вайны 1812 г. яўрэяў выселілі з 50-вёрставай адлегласці ад мяжы (1812–1821 гг.). "Устаў пра габрэяў" ("Положение о евреях") 1804 г. забараніў ім жыхарства ў сельскай мясцовасці. Гэтую кабінетную меру немагчыма было рэалізаваць за 4 адведзеныя законам гады. Таму, перапыняючыся ў лютым 1807 г. і снежні 1808 г., высяленні ўзнаўляліся ў кастрычніку 1807 г. і красавіку 1823 г. (Леванда, 1874: 77, 119), што прыводзіла да руйнавання яўрэяў і стварала блытаніну ў законах. Другі этап выгнання пачаўся пры Мікалаі I у 1827 г. у вёсках Гарадзенскай губерні, "Устаў пра габрэяў" 1835 г. распаўсюдзіў забарону на пражыванне па-за гарадамі і мястэчкамі на ўсю Беларусь. І рускія, і яўрэйскія юрысты далі адмоўную ацэнку мяжы аселасці, што захоўвалася да лютага 1917 г. Яна адмоўна адбівалася на развіцці яўрэйскай супольнасці, запавольвала працэс акультурацыі і прыводзіла да руйнавання яўрэяў, збядняла гаспадарку "ўнутранай Расіі", пазбаўляючы яе кадраў і капіталаў.

Падставай фарміравання "яўрэйскага заканадаўства" сталі справаздачы пра лад жыцця яўрэйскай супольнасці і інспекцыі часоў Паўла I. Асаблівае месца належыць нататкам Гаўрыіла Дзяржавіна, які бачыў мэту яўрэйскай рэформы ў ліквідацыі кагалу як алігархічнай установы, выкараненні "шкодных забабонаў рэлігіі", вызваленні ад іх Беларусі "без нанясення каму-небудзь шкоды". Для гэтага прапанаваў прыцягнуць яўрэяў (калі спатрэбіцца, гвалтоўна) да рамяства і земляробства на абмежаванай тэрыторыі, забараніць гандаль, падпарадкаваць агульнаму кіраванню і асвеце. Унёсак у заканатворчы працэс ўнеслі 4 Яўрэйскіх камітэта часоў Аляксандра I і Камітэт для вызначэння мер карэннага пераўтварэння яўрэяў 1840 г.

У свядомасці расійскай палітычнай эліты апошняй трэці XVIII – першай паловы XIX стст. існавала перакананне ў адвечнай варожасці яўрэяў да хрысціян і верагоднасці іх шкодніцтва "карэннаму насельніцтву края". Антысеміцкія настроі чынавенства можна прасачыць па справаздачах губернатараў, запісках інспектараў і членаў Яўрэйскіх камітэтаў.

Як не ўзгадаць “Запіску” Гаўрыіла Дзяржавіна, якая стала падмуркам заканадаўства адносна яўрэяў Аляксандраўскіх часоў? Рэлігія габрэяў вызначана як “збор пустых абрадаў, варожых іншым народам”. Габрэі сквапныя, несумленныя, ганарлівыя, лянівыя, ілжывыя, амаральныя, займаюцца магіяй, эксплуатуюць хрысціян, спойваюць сялян. “Нельга зрабіць заключэнне, каб габрэі ў сённяшнім іх стане былі добрымі людзьмі, а таму добрымі падданымі лічыцца не могуць” (Державин, 1872: 248–261).

Варожасць да габрэяў Мікалая І выяўляюць дзённікі цара, дзе габрэі Беларусі названы “пиявицами”. Аляксандр І і Мікалай І не былі ўпэўнены ў лаяльнасці габрэяў самаўладдзю. Адсюль высяленні яўрэяў з памежнай тэрыторыі на захадзе Імперыі, пастаянныя патрабаванні МУС вызначыць настроі габрэйства, даведацца, ці існуюць сярод іх змовы і кантакты з адзінаверцамі за мяжой.

Не дзіўна, што мэтай расійскага заканадаўства адносна яўрэяў стала перавыхаванне прадстаўнікоў супольнасці. Матыў перавыхавання быў закладзены ў расійскую палітыку адносна яўрэяў Кацярынай ІІ, якая захаплялася філасофіяй Асветніцтва. Яе настаўнік у філасофіі Вальтэр быў упэўнены ў яўрэйскай карыслівасці, фанатычнасці, нянавісці да хрысціян і мэтанакіраваным руйнаванні апошніх ліхвярствам (Шугуров, 1894: 136–137). Асветнікі жадалі зрабіць з яўрэяў “добрых грамадзян” коштам перавыхавання і адмовы ад ізаляванасці.

Меры адносна яўрэяў у канцы XVIII – 1 пал. XIX стст. адрозніваліся па жорсткасці, але ўсе яны былі накіраваны на дасягненне прававога ідэалу: асіміляваны, эмансіпаваны, уніфікаваны падданы, лаяльны трону. Прымаючы яўрэяў за чужы і небяспечны элемент, заканадаўцы прыходзілі да думкі аб неабходнасці выдалення альбо грунтоўнага змянення прадстаўнікоў гэтай супольнасці. Яны павінны адмовіцца ад сродкаў “эксплуатацыі карэннага насельніцтва”: ліхвярства, фактарства, карчмарства і вінакурэння. Насцярожанасць выклікаў яўрэйскі гандаль.

“Палепшаныя” яўрэі павінны праяўляць актыўнасць у вытворчай сферы: адчыняць прадпрыемствы, працаваць раменнікамі і земляробамі (Леванда, 1874: 56, 367). За пераменай роду дзейнасці павінна змяніцца маральнасць, чаму садзейнічала б вучоба ў агульных навучальных установах. Адмовіўшыся ад ізаляцыі, частка яўрэяў пакінула б юдаізм, большасць перайшла б на рускую мову. Пераапранутая ў еўрапейскія строі яўрэйская супольнасць не павінна была кідацца ў вочы.

У публіцыстычнай і навуковай літаратуры як з яўрэйскай, так і з хрысціянскай гістарыяграфіі, закладзена перакананне, з якім нельга згадзіцца. Маўляў, мэтай “яўрэйскай палітыкі” расійскіх манархаў была асіміляцыя яўрэяў. Але асіміляцыя прадугледжвае поўнае аб’яднанне

двух этнічных груп, растварэнне адной у другой, страту адной з іх уласнай адметнасці і самасвядомасці. Рацыю мае расійскі даследчык Аляксей Мілер (Миллер, 2006): гаворка ішла пра акультурацыю – набыццё знешняга падабенства, далучэнне да культурных нормаў пры захаванні адметнасці, перадусім – юдаізму.

Урад жадаў мець лаяльных уніфікаваных падданых, якія прыносілі б карысць краіне. Яўрэі ж былі яскрава адметнымі – вонкава, культурна, сам іх знешні выгляд быў маніфестацыяй "инаковости". Для перавыхавання прапанаваліся шляхі:

1) асіміляцыі – хрысціянізацыя (мажлівы, але не адзіны варыянт, які здымаў усе абмежаванні);

2) еўрапеізацыі праз асвету ў дзяржаўных навучальных установах і пераход да "карысных відаў дзейнасці", ён адкрываў шлях да дзяржаўнай службы, пазбаўляў ад рэкруцтва, дазваляў пакідаць мяжу аселасці.

Такім чынам, мэтай ураду стала ліквідацыя асаблівага стану яўрэйскай супольнасці і ўключэнне яе ў расійскае грамадства дзеля забеспячэння лаяльнасці. Габрэям прапанавана далучэнне да сістэмы расійскіх саслоўяў коштам адмовы ад нацыянальнай адметнасці, што сустрэла ў гэтым асяроддзі адпор. Стварылася сітуацыя латэнтнага канфлікту паміж габрэямі і ўладамі, якія злоўжывалі гвалтам. Вынік – недасягненне мэты заканадаўцаў. Абодва бакі ўзаемадзеяння неслі страты, габрэі заставаліся сегрэгаванай групай. Нягледзячы на юдафобію асобных законатворцаў, нельга сказаць, што самаўладдзе змагалася з габрэйствам. Яго турбавала адзінства Імперыі, хвалявала любая адметнасць – яўрэйская, польская, беларуская.

***Бібліяграфія***

1. Державин, Г. Р. (1872). *Сочинения.* С объяснительными примеч. Я. Грота. Издание Императ. АН: В 9 т. Санкт-Петербург.

2. Каценбоген, С. З. (1923). *Правовое положение евреев в Белоруссии накануне революции 1917 г.* Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, № 6–7.

3. Леванда, В. О. (1874). *Полный хронологический сборник законов и положений, касающихся евреев: iзвлечение из ПСЗ РИ.* Санкт-Петербург.

4. Миллер, А. (2006). *Империя Романовых и национализм: Эссе по методологии исторического исследования.* Москва.

5. Оршанский, И. Г. (1877). *Русское законодательство о евреях.* Санкт-Петербург.

6. Шугуров, М. Ф. (1894). История евреев в России. *Русский архив,* № 2.

# СТАЎЛЕННЕ РАСІЙСКІХ БАЛЬШАВІКОЎ ДА БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ Ў ПЕРЫЯД 1917–1939 ГГ.

**АНАТОЛЬ ТРАФІМЧЫК**

***Анатацыя:*** Бальшавіцкае кіраўніцтва разглядала Беларусь у якасці сродку для дасягнення сваіх геапалітычных і рэвалюцыйных мэтаў. Нацыянальныя інтарэсы самой Беларусі не былі першаснымі. Тым не менш бальшавікі пайшлі на эвалюцыю дзяржаўнасці Беларусі, каб маніпуляваць ёю на міжнароднай арэне: арганізавалі савецкую рэспубліку, у сярэдзіне 1920-х гг. павялічылі яе тэрыторыю, у 1939 г. далучылі Заходнюю Беларусь.

***Ключавыя словы:*** Беларусь, дзяржаўнасць, СССР, бальшавікі, Польшча.

## ATTITUDE OF THE RUSSIAN BOLSHEVIKS TO THE BELARUSIAN STATEHOOD DURING 1917–1939

***Abstract:*** The Bolshevik leaders considered Belarus as a means for achieving their geopolitical and revolutionary goals. The national interests of Belarus itself were not primary. Nevertheless, Bolsheviks started the evolution of the Belarusian statehood to be able to manipulate it on the international arena: they organized a Soviet Republic and increased its territory in the mid-1920s, annexing the Western Belarus in 1939.

***Keywords:*** Belarus, Statehood, Soviet Union, Bolsheviks, Poland.

